A L E S  Z M A H A R

**TO AN AGREEMENT**

BYELORUSSIAN VERSES

***

American Artist — **E. Stiver**
Мастак — **Е. Стывер**

Мастацкі рэдактар — **Аскольд Я. Ємець**

***

КНІГІ АЛЕСЯ ЗМАГАРА:

**"Рэпка"** — казачны абразок, Лінц, 1946
**"Случчакі"** — апавяданьне, Зальцбург, 1947
**"Да згоды"** —вершы, Кліўлянд, 1962

Рыхтуюцца да друку:

**"Пад чаромхай"** — вершы
**"Па крывых каляінах"** — апавяданьні
**"Кветка шчасьця"** — драматычныя творы
**"Жыве Беларусь"** — вершы
**"Лесавікі"** — апавяданьні
**"Край дзіваў, песьні і красы"** — Першая квадра рамана **"Случчына ў вагні"**

Друкарня **«Батурын»** Аскольда і Лідзіі Емэць
— Cleveland, Ohio — U.S.A. —



А Л Е С Ь  З М А Г А Р

Хто роджаны ў буры, ў вагні гартаваны,
Каму ненавісны драпежны тыран,
Хто любіць свой Край, барацьбой здратаваны —
Юнак ты, юначка, лясны партызан,
Рабочы ці лекар, жаўнер, ахвіцэр —
Твой шлях у радох Б. В. Р.

## ДА ЗГОДЫ

(Замест прадмовы)

**Браты-Беларусы! Да згоды! Час прыйшоў!**
**Славуты час... Адказная хвіліна,**
**Калі вагаецца лёс нашае Краіны,**
**Ці вольнай, слаўнай стаць, як некалі, ізноў,**
**Ці на гады, а мо й навек загінуць.**

**Да згоды ўсе! Браты! Нас лучыць САКАВІК,**
**Бацькоўскаю крывёй палітыя загоны,**
**Выгнанцаў на Сібір балючыя праклёны,**
**Крыжы дарожныя, дзяцей галодных крык**
**Ды роднае матулі енкі-стогны.**

**Браты-Беларусы! Успомніце той час,**
**Калі грудзьмі баронячы Краіну-Маці,**
**Са зброяю плячо-ў-плячо ў гушчэры, гаці**
**Адзін за аднаго на сьмерць ішлі ня раз,**
**Каб выратаваць сябру у няшчасьці.**

**Чаму-ж цяпер брахня, грызота, сваркі, бруд,**
**Агідна лаянка, даносы медналобых,**
**Абрыдлыя для ўсіх амбітныя хваробы?**
**А час ня спыніцца, й гісторыі прысуд**
**Апляміць іх пад матчыну жалобу.**

**Зірні наўкол! Як радуецца агент-шпег!**
**Заданьне выканаў, справакаваў на сваркі,**
**Цяпер работа ёсьць агентам Чразвычайкі —**
**І вусны крывяцца у гіранічны сьмех —**
**Па аднаму вылаўліваць на вуліцах, у парках.**

**Да згоды! Час! Зважай! — Нясецца кліч з гаёў.**
**— Сынкі мае! Хутчэй! Краіна — ваша Маці**
**Даруе кожнаму радзімаму дзіцяці,**
**Калі вы дружныя й адважныя ў баёх**
**Зноў разам прыдзеце за Край змагацца.**

Парыж — Францыя.
15. XII. 1952.

**№ 4 6 4**

Ён любы мне. Ён — дарагі.
Ўгары — Пагоні бег няспынны,
А з кута ў кут на берагі
Плыве Сьцяг роднае Айчыны.

Гляджу на нумара красу;
Зьвіняць: чатыры - шэсьць - чатыры...
Кангрэс — сьпяваюць верасы,
Другі — грукоча сэрца шчыра.

Ён любы мне... Ён — мой мандат.
Хвалюе грудзі шчасьця рэзвасьць.
Ён — гонар мой. Я — дэлегат.
Я галасую: **незалежнасьць.**

Чэрвень 1944 г.



ПЕРШЫ СЛУЦКІ ПОЛК



БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

# ПАД СЬЦЯГАМ ПАГОНІ



## 25 САКАВІК

Радзіўся Ты у Менску Беларускім,
Пажарам Край дыміўся у вагні.
Наўкол чужынцы на палетках вузкіх
Тапталі скарбы нашых родных ніў.

Народ стагнаў, угору ўздымаў рукі,
Лавіў сьвятла недасяжны прамень.
Быў цяжкі час. Сярод нясьцерпнай мукі
Зьявіўся Ты, прыгожы, сьветлы Дзень.

Цудоўнай зоркай ўзьняўшыся высока,
Народу шлях да волі асьвяціў,
І зашасьцелі казкаю асокі,
Мінулай славай лес загаманіў.

І Край ажыў. Народ паймкнуўся к сьвету,
Ў вачох крынічыць радасьці струмень.
І нашых продкаў слаўны запаветы
Ўваскросьлі ў гэты незабытны дзень.

Вялікі Дзень! Нічым Цябе ня сьцерці!
Стагодзьдзям нат Цябе не перажыць!
Вякі мінуць, а Ты ў народным сэрцы
У песьнях, былях будзеш вечна жыць!

Kirchheim — Аўстрыя.
25 Сакавіка 1946.

## БЫВАЙ, РАДЗІМА

Імчыцца цягнік скрозь туманы балот;
Вагоны бягуць чарадою;
Адзаду застаўся купнік і чарот;
А сум?.. Сум няўмольна са мною.

Мінаюць загоны, мінаюць лясы,
Вазёраў крыштальныя хвалі...
О, колькі змаганьня маўклівай красы
Палескія нетры схавалі!

Цягнік
1923



## ВЫШЭЙ

Вышэй уздымайся, стальны малаток!
Выкоўвай жыцьцё Беларусу!
Ідзі бараніць свой радзімы куток!
Народ вызваляць з-пад прымусу!

Даволі ўжо енкаў! Даволі пакут!
Даволі цярпець ад чужынцаў!
Гісторыі блізіцца помста-прысуд
Усім прайдзісьветам- злачынцам.

Вышэй уздымайся, мазольна рука!
Мацней бі ў зялезныя грудзі!
Куй долю і волю свайго мужыка!
Выводзь з-пад апекі у людзі!

Ціхарецкая
1923



## ЗАЛАТЫМ УЗОРАМ

Залатым узорам заіскрылі зоры,
Заіскрылі зоры у чароўным сьне;
Беларуса гонар, уздымайся ўгору!
Угару! Да зораў! Насустрэч вясьне!

Дух бунтарны, зорны, горда-непакорны —
Ў барацьбе няўкорны вольных дум узьлёт
Разам з сонцам раньнім заклікай к змаганьню!
Заклікай к змаганьню вынішчаць прыгнёт!

Ўжо на родных гонях ня стрымаць Пагоні.
Ня стрымаць Пагоні, рвецца на прастор;
Ўвысь узьняўся сьмела Бел-Чырвона-Белы;
Бел-Чырвона-Белы залунаў да зор.

Васілішкі.
26 чэрвеня 1943 г.



## ШАПАЦІЦЦА

Шапаціцца восень залацістым лістам,
Валавяны хмары гоніць угары.
Паравоз імчыцца з дзікім сьмехам-сьвістам
Праз палі, балоты, цераз гушчары.

Кратае, казыча, хіліць вецер вецьце,
Гойдае галінкі кашлатых сасён.
Палахліва сыпле жоўтае амецьце
Залаціста - лісты амярцьвелы клён.

Стужкамі удалеч распаўзьліся сьцежкі;
Жураўоў у вырай плыве ланцужок;
Міла мне усё тут: імшары, алешнік,
Саламяны стрэшкі, мурагу стажок.

Лістапад 1943 г.

## ВОЛЮ, СЛАВУ ЗДАБЫВАЙ

Кіньце, кіньце сьпеў тугі
І бадзёрым крокам
Праз палеткі, праз лугі,
Як акінуць вокам,
Сьмела, радасна шагай!
Волю, славу здабывай!

Хай наўкол сьнягі, туман!
Ныюць ў грудзях раны!
У бязьмежны акіян
Старaны каханай
Сьмела, радасна шагай!
Волю, славу здабывай!

І адказам на тэрор,
На Крывіцкіх гонях,
Дамо ворагу адпор
Пад сьцягам Пагоні.
Сьмела, радасна шагай!
Волю, славу здабывай!

Скрыбава.
30 сакавіка 1944



## НЯМА НАМ ПЕРАШКОД

Радзіла нас арліца,
Быў бацькам карабін;
Маланкі ў навальніцу
Нас песьцілі ў вагні;

Выхоўвалі нас буры,
Баюкаў сівы бор;
Скрозь хмары і віхуры
Шугалі мы да зор.

Гарыць паходняй раньне...
Ідзем мы у паход;
Зацятыя ў змаганьні,
Ня знаем перашкод.

Скрыбава 1944 г.



## ДАВОЛІ

Даволі зьдзекаў і прымусаў!
Даволі глуму і пакут!
Хачу быць вольным Беларусам,
Аслабаніць свой родны кут!

Няхай ня страшаць нас тэрорам,
Ні Салаўкамі, Калымой!..
Людзкая помста бурным морам
Зальле чужацкае ярмо.

Пад сьцягам Бел - Чырвона - Белым
За Волю, Праўду, за Штандар
Іду я ў бой адважна, сьмела;
Я — сын Свабоды. Я — Змагар.

Скрыбава
26 красавіка 1944 р.

## ІГРАЕ І ПЛАЧА

Іграе і плача ў тваіх руках скрыпка.
Звон струнаў аб горы пяе.
Дрыжыць серабрыстая ценкая нітка,
Да зброі, да волі заве.

Пяе аб вялікіх, страшэнных пажарах,
Аб тым, што наблізіўся кат,
Аб нашых зялёных загонах-абшарах,
Дзе марна гібее наш брат.

Пяе і імчыцца той сьпеў з буйным ветрам
На сьветлы, прывольны наш шлях,
Заве беларусаў із процьмы, із нетраў
Пад Бел - Чырвон - Белы свой сьцяг.

Скрыбава.
3 красавіка 1944.

## ДЭЛЕГАТ

Із вясковай хаты выбеглі дзяўчаты,
Выбеглі у поле на шырокі шлях;
Сёньня ад аратых едуць дэлегаты,
Едуць шукаць волі пад Пагоні сьцяг.

Сонейка іскрыцца над чыстай крыніцай,
Ў празрыстыя хвалі кідае прамень;
Раптам над сталіцай бурнай навальніцай
У блакітных далях разарваўся дзень.

Загулі гарматы з-за клёнаў кашлатых,
Засланілі неба зялезным агнём,
Ды жаўнер-араты ў барацьбе зацяты
За кавалак хлеба, за радзімы дом.

А ў сталіцы Менску з-пад Бранску, Смаленска,
Із-пад Бельску, Вільні, з Палескіх балот
На загад Краіны сходзяцца мужчыны,
Сходзяцца жанчыны на Вялікі Сход.

Дэлегат з Дубровы выступіў з прамовай:
Ў бой супроць камуны за радзімы Край!
Як зялезным звонам, ён агністым словам
Заклікаў з трыбуны хлопцаў на "зважай!"

Чэрвень 1944 г.



## ЮНАЧКА

Ты ў дзіўным характве стаяла перад намі.
Так велічны, так горды быў твой гнеў!
Ад роспачы, тугі сьціскала кулакамі...
Ў вачох агонь маданкава зіхцеў.

І раптам, угару з мальбою ўзьняўшы рукі,
Ты абвяла бязьмежны далягляд.
Там... дзесьці у тайзе, зьняможаныя ў муках,
Гібеюць бацька, маці, родны брат.

І позірк той, як сымбаль перад сьветам,
Нас заклікаў да новых перамог;
І на сьцягох уваскрасалі запаветны
Сьвятыя словы: Бацькаўшчына й Бог.

Ried — Аўстрыя.
26 студзеня 1949 г.

* = *** О *** = *

## УЦЕКАЧАМ

Браты мае! Браты-Беларусы!
Што гоніць вас ў чужы далёкі вырай?
Пакінулі Смаленск, Ржэў, Бранскія лясы...
А колы круцяцца, пяюць жалобнай лірай.

Скрыбава.
1 красавіка 1944 г.



## ГАЛАШЧІВУ ЯНКУ

Незваротнай плыняй
Праплываюць годы.
Будзь-жа верным сынам
Ты свайму народу!

Ў горы ня згінайся
Пад цяжкім прымусам!
З гонарам трымайся
Назвы Беларуса!

Бо і наш час прыйдзе,
Й нам засьвеціць сонца,
Промень Волі ўзыйдзе
Ясным валаконцам.

Шчасьця дні паймкнуцца,
Й з дальняе дарогі
Мусім мы вярнуцца
Ў Край свой з перамогай.

Ried — Аўстрыя.
22. 2. 1947

═ ** * ** ═

## І ГАДЫ МІНАЮЦЬ ЗА ГАДАМІ

І гады мінаюць за гадамі...
Палазамі Коляды рыпяць,
Закавала рэчку ланцугамі,
Замяло зямельку саванамі,
Ды калядак нешта ня чуваць.

І у гэту сумную часіну
Пазірае Маці у вакно:
Ўсё чакае, моліцца па сыну,
Ці жывы яшчэ, ці мо загінуў
Яе любы, родненькі сынок.

Cleveland — З.Ш.А.
1958



## АДЗІНЫ ШЛЯХ

Родны Край! Матуля дарагая!
Пачарнелы ад пажараў сад!
Разьвітаўся з вамі я ля гаю,
Не сказаў, на колькі пакідаю,
Ці вярнуся к Колядам назад.

Не сказаў, зь якім глыбокім болем
Ехаў я ў чужую старану...
І цягнуўся дзень за днём паволі
Ў адзіноце суму, як ніколі,
Без спагады, радасьці, бяз сну.

Толькі ў мроях бачыў родны далі:
Ткуць дзяўчаты ў Слуцку паясы;
На рабінах чырваньню каралі
Над зямлёй пакутай пазьвісалі,
Пазіраюць ў сінія лясы.

Край мой родны! Ведай: я вярнуся,
Бо адзіны толькі маю шлях.
Зь ім Цябе ніколі не зракуся,
Зь ім іду да вольнай Беларусі
Пад Пагоні пераможны сьцяг.

Kirchheim — Аўстрыя.
6 сьнежня 1944 г.



## ГІСІЧУ АЛЯКСАНДАРУ

Куды-б цябе лёс ні закінуў,
Якім-бы ні джаліў асьцёмм,
Сваю дарагую Краіну
Любіць мусіш больш за жыцьцё.

Kirchheim — Аўстрыя.

---

## ІДЗІ ПАД ПАГОНІ ШТАНДАР

Напорная моладзь,
Хадою упартай
Ідзі пад Пагоні Штандар!

Хоць ветры сваволяць,
Грукочуць гарматы,
Ты — новай прадвесьні ўладар.

Зьвініць звон Сафіі,
Плюскочуць азёры,
Шуміць пушча славай былін...

Хай выюць стыхіі!
Адважна, бадзёра
Шукай палымністых пуцін!

Ты — гонар народу,
Ты — войнік Краіны,
Ты — будучай славы пясьняр,

Скрозь шал непагоды
Рашуча, няспынна
Ідзі пад Пагоні Штандар!

Cleveland — З.Ш.А.
30 верасьня 1962 г.











# РОДНЫ КРАЙ





## Я — СЫН ТАГО КРАЮ

Я — сын таго Краю, дзе гаі, лясы,
Дзе рэчкі тасёмкаю ўюцца,
Дзе пекныя кветкі, дзе ткуць паясы,
Дзе сонца і хмаркі сьмяюцца.

Я — сын таго Краю, дзе нівы, сады,
Дзе ў зелені топяцца хаты,
Дзе жніўныя песьні з грудзей маладых
Зьвіняць дыямэнтамі шатаў.

Я — сын таго Краю, дзе сінь васількоў
Гуляе з русалкамі ў жыце,
Дзе льлецца бадзёрасьць з дрыгвіцкіх вянкоў,
Дзе краскамі поле іскрыцца.

Я — сын таго Краю, дзе зброю народ
Трымае у моцнай далоні,
Дзе высака ўзьвіўся із нетраў, балот
Сьцяг Бел - Чырвон - Белы Пагоні.

27 чэрвеня 1943 г.



## НЕ ЗМАГУ

Жытнёвае поле - валошак краса!
Іскрыць на пялёстках сьлязінка- раса.
Ільняныя косы з-пад сініх вянкоў
Ў трымценьні плывуць, не знаходзячы схоў.

Зялёныя шаты, шаўковая рунь,
І песенны звон, што разьліўся угрунь,
І рэчка, і сад, і яловец, багун —
Забыць іх ніколі й нідзе не змагу.

Васілішкі. 1944 г.

## ПЕСЬНЯ КРАСАК

( З Купальскай Ночы.)

Край балот, крыніц. азёраў,
Скарбаў захаваных,
Зрэб"я, багны, кроз, узораў,
Сьвітак саматканых.

Край лягэнд, крыжоў, магілаў,
Тугі нявыказнай,
Курганоў, чароўнай сілы,
Пушчаў непралазных.

Край цудоўных песень, казак,
Палёў васількоўых,
Колькі зносіш Ты абразы
Ад чужынцаў змовы!

Cleveland — З.Ш.А.



## ПЛАЧА

Плача за сьцяною чараўніца - скрыпка,
Навевае смутак новых шэрых дзён.
Ў калідоры ціха хтось дзьвярыма рыпнуў;
За вакном ліствою шапаціцца клён.

Я стаю задумны аб нязбытных мроях,
Не кранае сэрца завадзкі гудок;
Думкі - лятуценьні мімавольным роем
З славай Чарадзея прыплылі здалёк.

1950 г.



## РОДНАЯ СТАРОНКА

Родная старонка! Ты ізноў ў пакуце.
На Твае палеткі хлынуў град агню.
Не пляце дзед лапці, седзячы у куце,
Ня мітусяць дзеці на дварэ ў гульню.

Ўсюды: на загонах, у гаі, у хаце,
Ў гарадох і вёсках, уначы і ўдзень,
З гостраю касою, нібы ў сенажаці,
За людзьмі цікуе сьмерці чорны сьцень.

Шэры дым ад стрэлаў зацямніў лагчыны;
Ад крыві народнай ўзьняўся цяжкі пах;
Апаганіў вораг вольную дзяўчыну;
У вачох Матулі незгасальны жах.

Але прыйдзе помста! Згіне непагода!
Закрасуе славай наш агністы шлях,
І над вольным домам вольнага народу
Высака ўзаўецца пераможны Сьцяг.

Скрыбава
1 чырвеня 1944 г.



## ШТОДЗЕНЬ

Штодзень чыгункаю вурчаць- пяюць вагоны,
Імчаць няведама куды — удалячынь...
— О, дзікі лёс вайны!
Зьнішчальнік ніў, загонаў!
Спыні свой страшны шал!
Хоць момант адпачынь!

## РАЗЫЙШЛІСЯ СЬЦЕЖКІ

Разыйшліся сьцежкі
Вузкія, крывыя,
Разыйшліся полем
Ў дальнія краі;

I сядзяць на ўзьмежках,
На сівых руінах
Людзі без патолі
З сэрцам у крыві.

Горна плача Маці,
Бедная галосіць;
Ня ўцішыць ёй болю,
Ня суняць сьлязы;

Выйдзе жыта жаці,
Гляне на калосьсе
I зальлецца болей
Горкімі сьлязьмі.

Сумна на палетку,
Родная Матуля!
Плачаш, ня сьціхаеш
Ты ўначы і ўдзень;

Больш ня ўбачыш дзетак,
К сэрцу ня прытуліш,
Бегаеш, ня знойдеш
Мейсца анідзе.

Разыйшліся сьцежкі
Вузкія, крывыя,
Разыйшліся ў полі
Ў дальнія краі.

Тлеюць галавешкі
На сівых руінах,
Скаргу-дым зь няволі
Гоняць у гаі.

Ried — Аўстрыя
1949



## ХУТКА

Восень спускаецца шэраю хмараю,
Вецер у стрэхі гудзе,
Сум неадчэпнаю цяжкаю мараю
Поўніць дакучлівы дзень.

Прагна імкнецца душа супакоіцца,
Воддаль ад чырвань-багны,
Ды на чужыне чужая ваколіца,
Людзі — чужыя сыны.

Тут не пачуць ні спагады слоў ласкавых,
Ні спачуцьця, ні пяшчот;
Зоркі?.. I тыя ня йскрацца нам краскамі,
Ня усьміхнецца завод.

Ногі крывавяцца сьцежкай жабрачаю,
Ў думках — гаротны наш Край.
Маткі няшчасныя давяцца плачамі;
Ў сэрцы — балючы адчай.

Родны народ наш пакутуе ў роспачы,
Рвецца зь ярма, з ланцугоў;
Гойсаюць каты крывавыя поначы,
Нішчаць Краіны сыноў.

Ды ўжо даволі народу пакутаваць!
Хутка надыйдзе пара:
Дымам разьвеюцца ворагі лютыя,
Сьветлая ўзыйдзе зара.

Парыж — Францыя.
Жнівень 1950 г.

## А ЦІ ПОМНІШ ТОЙ КРАЙ

А ці помніш той Край?
А ці помніш аўсы,
Што галоўкамі ціха хістаюцца,

Дрэмле ў зелені гай.
Шапацяць каласы,
Пошчак - сьпеў салаўя заліваецца.

А ці помніш той сад,
Азяроды, грудок,
Раі пчолак ля борцяў гайдаюцца,

Шэры сад між прысад,
А за вёскай ставок:
Плюхне рыбка, і круг расплываецца.

А ці помніш тых жней?
Іхны жаласны сьпеў,
Што ліецца, за сэрца кранаючы?

Нібы ў казачным сьне,
Галасок іх зьвінеў,
За ваколіцу плыў заміраючы.

А ці помніш той Край?
Там радзіўся ты й жыў,
Босы бег па грыбы сцежкай вузкаю.

А ці помніш той гай?
А ці помніш, скажы,
Тую МАЦІ, што зваць беларускаю?

Cleveland — З.Ш.А.
29 студзеня 1959 г





## Я — ДЗЯЎЧЫНА З КРАІНЫ ЗАБРАНАЙ

( Прысьвячаю Казі )

Думкі ў роспач плылі,
Зьнікілі ў сэрцы вуглі,
Грудзі нылі ад болю Краіны;

Я па сьвеце блукаў,
Кветку Шчасьця шукаў
Ды спаткаў сінявоку дзяўчыну.

Ці Ты красачка зор?
Ці русалка вазёр?
Ля Цябе водар кветак духмяны.

Усьміхнулася мне:
Казяй клічуць мяне...
Я — дзяўчына з Краіны забранай.

Ёй я ў вочы зірнуў
І ў вачох патануў,
Патануў ў глыбіні прамяністай.

Ці то ява, ці сны?
Я Князёўну Вясны
Зноў спаткаў на шляху крамяністым.

Cleveland — З.Ш.А.
31 траўня 1962 г.

## КНЯЗЁЎНА ДУМ МАІХ

Князёўна дум маіх,
Кунежных сноў царыца!
Ў чароўным лятуценьні
Я выпесьціў Цябе.

Стаіш Ты ля мяне
У белым аксаміце
Ў зьнямозе ад каханьня
Ў гарэзнай барацьбе.

І п”ю я чад уцех
Агністага улоньня,
П”янею ад пяшчотаў
Тваіх палынных рук,

Я падаю, лячу
Ў салодкае прадоньне...
А Ты? Ты ля мяне,
Дзяўчына — Беларусь.

Cleveland — З.Ш.А.
1962

— *** —

## МРОІ

Восень шуршыць, расьцярушвае лісьцямі,
Сыпле іржою зь бялесых бяроз;
Зноў я імчуся сном-мроямі йскрыстымі
Ў Край серабрыстага зрэб‘я і кроз.

Вена — Аўстрыя.
16 Кастрычніка 1944 г.





# НАСТРОЇ

## ТЫ БУДЕШ ЖЫЦЬ

( Прысьвячаю сыну Міхасіку )

Спусьціла ноч на землю чорны полаг.
Танок сьняжынкі за вакном снуюць.
А мне?.. Душу стрывожыў шэры морак,
Крывавіць сэрца... Не магу заснуць...

Заплюшчу вочы. Скрозь павек я бачу
Цябе, сынок. Крычыш: Та-та!.. Пільнуй!..
І часта дышаш подыхам гарачым,
Раскідаў ручкі, коўдрачку сапхнуў.

Гарыць твой лобік, тварык палыхае,
Шавеляць вусны: — Божа! Я адзін...
А колькі суму з вочак пазірае!
Мой любы, родны, дарагі мой сын.

Вось ручку кволую узьняў ты на хвіліну,
Пытаеш позіркам: - Дзе тата? .. Дзе?..
Мой родны тата! Ты сынка ня кінеш!
Дасі ратунак хвораму ў бядзе!

— Ня плач, сынок! Адкінь трывогу, роспач!
Мінае ноч, а з ранкам дзень бяжыць.
Жыцьцё крыніцаю наўкол цябе палошча.
Ты не памрэш! Сынок! Ты будзеш жыць!

Cleveland — З.Ш.А.
1 лютага 1960 г.



## МАТУЛЯ

Бывай, Матуля! Родная, бывай!
Твой любы сын ў далёкі едзе край.
Не захацеў ён концаў, Калымы,
Савецкай катаргі, Сібірскае зімы.

Матуля родная, на сына Ты ня злуй!
Яму, бяздомнаму, за крыўды ўсе даруй!
Даруй за ўсё! За вольных дум узьвіў
І на выгнанскі шлях благаславі!

Як сёньня, Мама, помніш Ты той дзень:
З калыскі ў вочы я Табе глядзеў,
Сваімі ручкамі я весела гуляў
І слова МАМА першы раз сказаў.

Ты так пяшчотна ў мой зірнула бок:
— Сынок мой родны! Любы галубок!
І потым міла люліла мяне,
І песьняй роднай галасок зьвінеў.

Падрос я трохі, бегаў басанож
Ды нек нагу прабіў на йржавы нож,
Я да цябе, кульгаючы, ішоў.
Як Ты зьбялела, угледзяўшы кроў!

— Ня плач, Матуля!— Супакойваў я.
— Мне не баліць больш, нават, аніяк.
Я быў маленькім хлопчыкам тагды
Й такім застаўся Табе назаўжды.

Ты помніш, Мама, й той Дваццаты Год,
Калі ўзьнялася Случчына ў паход,
Загінуў бацька ад рук палачоў,
Сын трапіў ў лапы чорных крумкачоў.

Як потым каля ДОПРаўскіх варот
Ня раз займала Ты там свой чарод.
Ды як Ты, Мама, плакала наўзрыд,
Што сын гібее ў карцары сырым.



Ты плачаш, Мама, ведаю, па мне,
І мне ня лёгка ў далёкай чужыне.
Ці ўбачымося мы яшчэ калі?
Памерці цяжка на чужой зямлі.

А помніш, Мама, жудасны той дзень,
Калі чакіст пытаўся:—Сын Твой дзе?
І не спалохаў Цябе Трыбунал,
Павандравала ў ссылку за Урал.

Пакутны шлях было Тваё жыцьцё.
Сьвятою ўвойдзеш Ты у нябыцьцё.
Тваё імя, як сымбаль на ўвесь сьвет,
Нясе ў сябе любові запавет.

Куды ні глянь: у хату ці ў палац —
Ўва ўсіх краёх імя Тваё чуваць.
— Матуля! — З крыўдай горнецца дзіця,
А вочкі ў сьлёзках да Цябе зіхцяць.

— Матуля! — Ўспомніць кожны у бядзе,
І расплывецца роспач ад надзей.
Сьвятое імя не забыць ніяк.
— Матуля! — Шэпча ранены вояк.

— Матуля! — Шэпча ён апошні раз,
І твар сьвятлее у сьмяротны час.
Матуля! Родна! Сэрца майго цьвет!
Твой дзень сьвяткуе цяпер увесь сьвет.

Я часта бачу у трывожным сьне,
Што Ты, Матуля, плачаш аба мне,
Што ў Тваім сэрцы тлеецца агонь—
Пабачыць сына любага свайго.

Ня плач, Матуля! Прыйдзе яшчэ час!
Пагоні сьцяг зноў аб"яднае нас;
Ў баёх крывавых расплывецца змрок;
К Табе, Матуля, вернемся здалёк.

Парыж — Францыя.
Чэрвень 1955.

## НІНЦЫ ДЫШЛЮЧАНЦЫ

Любі свой народ, любі Край Беларускі!
Будзь вернай дачкою палёў і лясоў!
Надыйдзе часіна, калі, ўзяўшы зброю,
Спаткаемся зноў на шляху змагароў.

Ried — Аўстрыя.
1949

— * * * * * —

## ТОЛІКУ ДРЫНДРОЖЫКУ

Дзіцём адарваны ад роднага Краю,
Ўзіраўся ты часта ў чужы сівы бор;
Ня ведаў цудоўных дзядоўскіх звычаяў,
Ня чуў вольных песень зялёнага гаю,
Ня бачыў чароўнасьці родных азёр.

Аднак у крыві захавалася цяга
Да слаўнай мінуўшчыны прашчураў дзён:
І рэчка, і лес, і народныя сагі.
Ў зацятых баёх слаўных продкаў адвага
У мроях - лятунках навейвала сон.

Kirchheim — Аўстрыя.
1946





## ВАЛІ

(На дзень 22-х угодкаў)

Ў чорныя хмары Краіна спавіта;
Віхар узьняўся, маланка зіхціць,
Гром загрымеў, пракаціўся сярдзіта,
Грозным агнём палахціць.

Дочка Краіны! Цябе ўзгадавалі
Жытні палетак, гаі, сенажаць;
Жаўранкі песьні аб долі сьпявалі,
Волю вучылі кахаць.

Зграя бандытаў ўвесь Край агарнула;
Вецер рваў лісьце, стагналі дубы;
Сьмела ты ў вочы нядолі зірнула,
Вышла на шлях барацьбы.

Ў ногі ўсысаліся дзіды бяз конца,
Вопратку рвалі, калолі у твар;
Разам з другімі Ты роднай Старонцы
Несла дары на аўтар.

Глянь! Ўжо над намі лунае Свабода,
Славай вякоў шапаціць родны гай;
Дочка Краіны! Для славы Народу
Гімн Перамогі сьпявай!

Краска Твая паміж нас не загіне;
Радасьцю сьвеціць заўжды маладосьць.
Хай-жа сягоньня у гэтай хвіліне
Кожны вяселіцца госьць!

Kirchheim — Аўстрыя.
25 кастрычніка 1945 г.

## МАРУСІ ГУСАКОВАЙ

( з нагоды шлюбу )

З Кірхгайму з-пад Рыду шлём Вам прывітаньне:
Каб Ваша жыцьцё красавала штогод,
Каб шчасна збыліся ўсе Вашы жаданьні,
Каб стаў незалежным наш Край і Народ.

16 чэрвеня 1946 г.

## ЯНКУ, ВІКТАРУ І ТОЛІКУ

Забытыя лёсам, у багне балеснай,
Ня бачым мы ласкі, ня бачым пяшчот;
Усё тут чужое: і людзі, і песьні,
І неба, і птушкі, й гульні карагод.

І ўспомніў я сёньня далёку Айчыну:
Гуляе там вораг — чырвоны груган.
Ці-ж нам не баліць, што мы тут на чужыне?
Ці-ж нам не баліць, што ў Краіне тыран?

27 студзеня 1947

## ВАСІЛЬЛЕВУ ГРЫЦЬКУ

Братоў - украінцаў ў знак дружбы народаў
Дачка Беларусі вітае.
Хай воля Краін, незалежнасьць і згода
У сэрцах гараць, расьцьвітаюць!

16 чэрвеня 1946 г.



## ІВОНЦЫ ШЫМАНЕЦ

Застылі на ўзгорку таполі,
Лагчыны у белі туманяцца,
Ды ўжо у гушчарах праз гольле
Блішчыць беларуская раніца.

І хай туманы наўкол сьцелюцца,
Рады мы свае перамножым,
Праз буры, віхуры, мяцеліцы
Мы ўзыйдзем на шлях пераможны!

Парыж — Францыя.
14 лістападу 1955 г.



## АЛЕСЮ САЛАЎЮ

Калі Пярун грымеў і ляскаў,
Калі круціў буран ліхі,—
Рукзак, сухар ды скарб каляска
Замацавалі нам шляхі.

І мы пакрочылі па горах
Праз Бадэн, Пёльтэн, Вэльс на Рыд
І эўрапейскія прасторы
Нагамі ўтоптвалі ў нябыт.

Kirchheim — Аўстрыя.
7 траўня 1945 г.

## ДАРАГАЯ НЯ ПЛАЧ

(Прысьвячаю Ані-сяброўцы С. Б. М.)

Чырванеўся усход,
Край гарэў ў барацьбе,
Люд няшчасны крывавіўся, гінуў.
Ледзь шаснаццаты год
Прамінуў у Цябе,
Пакідала Ты родну Айчыну.
Навакола кусты,
Луг, загоны і сад,
Дарагія ўспаміны аб клёнах...
І заплакала Ты
Ды пайшла ля прысад
З болем сэрца ад крыўды праклёнаў.
Заімшэлася золь.
Сумна ўдалеч глядзіш:
Як сустрэнуць чужацкія людзі?
Але ў думках скрозь боль
Эс-Бэ-Эмаўскі крыж
Упрыгожваў дзявочыя грудзі.
І ўсьміхнулася Ты,
Прашаптала "бывай"
Ды махнула рукою скрозь сьлёзы
На бор цёмны, густы,
На палеткі, ручай,
На садок, на таполі, бярозы.
Дарагая, ня плач!
На лёс не наракай!
Прыйдзе час і скрыжуе дарогі.
З дымам зьнікне палач,
І мы вернемся ў Край
На змагарным шляху перамогі.

Cleveland — З.Ш.А.
27 верасьня 1959 г.





## СЛУЦКІЯ ПАЛКІ

Над зямлёю Слуцкай стараны каханай
Уздымаўся ўгору жудасны віхор;
Налецела хмарай, здрадна захаванай,
Азіятаў войска на наш шыр-прастор.

Але ўжо ня згодны беларус гнуць сьпіну;
Досыць працярпеў ён шмат гадоў палон;
Паўстае ён сьмела за сваю Краіну,
За абліты потам дарагі загон.

У вачох бліскучых вызваленьня смага;
Хай грымяць гарматы! Надыйшлі вякі,
Калі за свабоду з агнявой адвагай
Ў бітву рвуцца сьмела Слуцкія палкі.

Слуцак.
Лістапад 1920 г.

## СЫНКІ МАЕ

— Сынкі мае! — Гукнуў Бацька
Булак - Балаховіч,
— Адцуралася нас доля,
Шчасьце нам ня зорыць.

Чужынцы ў Краю пануюць,
Цэрквы зачыняюць,
Камісары на руінах
Баль - тэрор спраўляюць.

Ня мінуць нам зноў кайданаў,
Ланцугоў няволі.
Край наш родны! Зрабаваны!
Край бяды! Нядолі!

Над Табою навальніца
Згушчаецца злосна,
Над Табою Ленін з Троцкім
Снуюць свае кросны.

Паняволяць, закабаляць,
Закуюць навекі,
Адарвуць сыноў ад маткі,
Аддадуць на зьдзекі.

Сынкі мае, сакаляты!
Ці - ж нам трэ няволя?
Ці - ж нам трэба паганяты
На нашым - жа полі?

Сынкі мае, сакаляты!
На каня! У зброю!
Бі наезьнікаў праклятых!
Гэй, наўскач! За мною!

Слуцак.
Лістапад 1920 г.



## ЗА БАЦЬКАЎШЧЫНУ

Ўжо нясуць хлапчука у зямлянку:
Ў грудзёх рана сьмяртэльна была;
Там чакала Матуля ад ранку —
Пераведаць сыночка прышла.

Палажылі яго каля ганку.
Акрываўлены ён застагнаў,
Ў рукі крыжык далі й адразанку
Й засьпяшаліся: — Хлопча, бывай!

Ня стрымалася Маці; — Мой сыну!
Дарагі мой! Радзімы ты мой!
Ты радзіўся ў ліхую гадзіну.
Як мне жыць будзе беднай адной?

Пакажы, ці вялікая рана?
Мабыць, моцна пячэ і баліць?
— Ўжо жыцьцё маё Богам забрана,
Родна Матка! Ня доўга мне жыць.

Не баліць рана гэтак, як путы,
Што прынёс нам з Масквы бальшавік.
Ў кайданы зноў Краіна закута,
Зноў пад паншчыну трапіў мужык.

Рана, што у грудзёх, мне салодка:
Ў ёй ратунак Радзімы мае.
Гуртам зьнішчым аковы-калодкі,
Гэта рана нам волю дае.

А цяпер... Мая родная Матка,
Паміраю!.. Навекі бывай!
Даруй, Бацькаўшчына! Родна хатка!
Даруй, родны народ!.. Родны Край!..

І памёр наш юнак, і ня ўбачыў,
Як крываўіўся Край у асьцёх;
З цяжкай ранаю, але без плачу
Ён аддаў маладое жыцьцё.

Слуцак
Лістапад, 1920





## БАЦЬКУ

Загінуў Ты за Край свой родны,
За волю, шчасьце, за народ.
Цяпер ляжыш ў зямлі халоднай
Сярод дажджоў, агню, грымот.

Ня мог сьцярпець тэрор чырвоных,
Глядзець на град народных сьлёз.
На помсту зваў сыноў загонаў,
Людзей гаёў, балот, бяроз.

Вучыў іх браць вінтоўкі ў рукі,
Да сьмерці свой народ кахаць
І гэраічна ў жорсткіх муках
За лёс змагацца і ўміраць.

Цяпер ляжыш, а помста з сэрца
Ўзьнялася ўгору, кліча ў бой.
Мы прысягаем нашай сьмерцю
Аслабаніць Край родны свой.

Слуцак.
Лістапад, 1920



## У ВАСТРОЗЕ

Сяджу я ў вастрозе, а думкі мае
Імчацца да любае хаткі,
Імчацца да мілых палеткаў, ганей,
Да роднай старэнькае маткі.
Збалелыя грудзі ірвуцца ў прастор;
Гляджу ў далячынь праз ваконца,
І хочацца чуць, як шуміць сіні бор,
І хочацца яснага сонца.
Журботна на сэрцы. Сумую ўвесь дзень.
Як радасна, сьветла на волі!
Закрочу із кута у кут, быццам цень,
Пакутны самотнага болю.
І зноў із-за кратаў гляджу у блакіт:
Праносяцца вольныя хмары,
І ймчацца далёка, да мілых ракіт
Маскве непакорныя мары.

Слуцкі астрог 1921 г.

## ПЕСЬНЯ ВЯЗЬНЯ

Ў Краіне "свабоднай"
Сяджу я ў турме
І суд "лжэ-народны"
Чакаю сабе;
Смакую шчасьлівы
Саўдэпіі "рай",
А ў вокны нудліва
Нясецца "слу-шай!.."

Але я ня першы
Папаў ў гэты "кут";
Жытнёвыя вершы
Чакаюць прысуд;
Наўкола ад плачу
Калоціцца "рай",
І нудна наўдачу
Нясецца "слу-шай!"

Слуцкі астрог 1921

## К А Л І

Сяджу у лёхах я астрожных;
Наўкола цемра... Цішыняя да болю...
А сэрца?.. Грукае трывожна:
Калі? Калі я прычакаю волі?

Слуцкая вязьніца.
1921г.

** * **
* *

## З - З А К Р А Т

З турмы савецкае із карцарнай каморы
Ірвуся думкамі да мілых, дарагіх;
Ўжо колькі месяцаў крывавіць сэрца гора;
Ні вестак, ні лістоў ня маю я ад іх.

Зірну ў вакно: праз краты бачу хмары;
Нясуцца ў вышыне няведама куды;
І цяжар роспачы прасочваецца ў мары,
Ды душу раніць горыччу жуды...

— — — — — — — — — — — — —

І раптам ластаўка прысела на ўскрай кратаў,
Зашчабятала штось ды зьнікла, нібы сон.
— Ляці ты, ластаўка, ляці да роднай хаты,
Скажы, што сын іх трапіў у палон...

Слуцкі астрог
1921





## З ПАДВАЛУ СЫРОГА

Збалелыя грудзі
Занылі ад болю,
Сьляьмі затуманіла вочы;

Варожыя людзі,
Зьнішчаючы волю,
Пануюць над Краем, як хочуць.

Над ціхаю кручай
Пад ліпай шырокай,
Дзе з мілай сядзеў аж да раньня,

Праз сьлёзы гаручы
У болю глыбокім
Угрунь адцьвітае каханьне.

Гляджу я ў вакенца
З падвалу сырога;
Пяюць салаўі на прадвесьні,

А ў душу ліецца
Каханьне... трывога...
Як любы вы, родныя песьні!

І лёгкія мары
Лунаюць да зораў
Пад сіні блакіт Беларусі.

Ніякія кары,
Ніякае гора
Зрачыся Радзімы ня змусіць.

Слуцкі астрог
1921



## ПЕСЬНЯ АРЫШТАНТА

У падвале пад мокрым скляпеньнем
Арыштант галаву ўдол схіліў;
Па твары разьбягаліся сьцені;
Ледзь-ледзь вуснамі ён шавяліў:

— І за што столькі цяжкае мукі
Мне ў юнацкія годы цярпець?
Як балюча мне зносіць разлуку!
З дня на дзень узірацца на сьмерць!

О, мой Божа магутнае сілы,
Дай яшчэ колькі дзён мне пажыць!
Перад тым, як зыйду я ў магілу,
Дай паслухаць, як пушча шуміць!

Дай пабачыць садок каля хаткі,
Пачуць голас сясьцёр і братоў,
Прытуліцца да роднае маткі,
Рукі сьціснуць сяброўак, сяброў!..

І узьняў галаву ў задуменьні —
Неба скрылік маркоціў вакно;
Раптам ясныя косы праменьняў
Зазірнулі ў вастрог на радно.

Любы тата! Харошы, мой мілы!
Каб ты ведаў, як цяжка мне тут,
Ты устаў-бы з сырое магілы,
Мяне вырваў-бы з гэтых пакут.

І няўжо ты ня чуеш, ня бачыш,
Як нязломна стаю ў барацьбе;
Не пачуць ім ні енкаў, ні плачу...
Я — твой сын... Я іду да цябе.

Ўсё цішэй словы з вуснаў зьляталі:
— Родны тата, хадзі ка мне ў кут!
Маё сэрца цябе прычакала...
Не баюся ніякіх пакут...

Слуцкі астрог
1921 г.



## ЯК ПАМРУ

Як памру, дык пахавайце
Ў Случчыне, дзе жыў;
Крыж і стрэльбу ў рукі дайце,
Каб я й там служыў,

Каб мой дух ў блакіце сьнежным
Воляю лунаў,
За Краіны незалежнасьць
Да змаганьня зваў.

Да змаганьня за спадчыну,
За лясы, палі,
За сум песень тых матчыных
Роднае зямлі.

Над гаямі хмары дымяцца,
І пыліцца шлях;
Час надыйдзе і уздымецца
Зноў Пагоні сьцяг.

Слуцкі астрог
1921

## У С П А М І Н

З-за сьцен высокіх сумна выглядае
Аблуплены цагельны шэры дом;
Ні сьпеў, ні сьмех з-за крат ня вылятае —
Усё агорнута сьмяротным сном.

Схіліўся вечар на гаі, палеткі;
Над домам плямы чорныя ляглі;
Галоўкамі ківалі сонна кветкі,
Й здавалася, кудысьці ўдаль паўзьлі.

Раптоўна енк пачуўся за сьцяною;
Балючы стогн запоўніў ўвесь харом.
І сьціхла ўсё. І цяжкім сном, журбою
Чарнеў з-за сьцен цагельны шэры дом.

Ціхарэцкая — Каўказ
23 чэрвеня 1924 г.

## ШАПЕЛЮ ХВЕДАРУ

Хоць каты чырвоныя ў Слуцку ізноў,
Хоць мы на далёкай чужыне,
Пакуль ў нашых жылах хвалюецца кроў,
Датуль Беларусь не загіне.

Kirchheim — Аўстрыя.
30 чэрвеня 1948 г.



## К Р А Й

О, Край мой прыгожы! Край мілы, каханы!
Куды-б мяне лёс ні закінуў —
Усюды Табе я бязьмерна адданы,
З Табою я ў кожнай хвіліне.

Цябе пакахаў я з дзяцінай калыскі,
Калі Маці песьню сьпявала,
Калі да вакна нахіліўшыся нізка
Зязюля ў гальлі кукавала.

З тых пор я кахаю і сумныя песьні,
І косы іскрыстых праменьняў,
І краскі, што ўсходзяць у нас на прадвесьні
І нас ажыўляюць натхненьнем.

Кахаю Краіны крывавыя раны —
Ахвяры у Слуцкім паўстаньні,
І меч, што для волі з зялеза каваны,
І Сьцяг, што лунае змаганьнем.

Скрыбава
8 студзеня 1944 г.



## ТО НЕСЬМЯРОТНЫ

Абапал ціхае ракі
Грымелі ў Случчыне гарматы;
Гайсалі ў вёсках гайдукі —
Апрычнікі чырвоных катаў,
Ды толькі быў то год дваццаты.

Із-пад саломянай страхі,
З стагоў, із ямы пад вярбою
Случчак выцягваў сваю зброю;
Каб бараніць свае шляхі,
Адрэз гатовы быў да бою.

Ўзьвіліся вольныя сьцягі
Над кожнаю сялянскай хатай;
Няволі рвуцца ланцугі,
Ушчэнт пакрышаныя краты —
У бой крывавы йдзе араты.

За бацькам усхапіўся й сын;
Адзеты ў зрэбную кашулю,
Хлапец схіліўся да Матулі:
— Даруй мне, Мама! Плакаць кінь!
Багаславі! Іду пад кулі.

— Даруй, Матуля і бывай!
У крыж чырвоны йдуць дзяўчаты,
Ідуць на сьмерць за родны Край...
Ўзьнялася Случчына заўзята....
То Несьмяротны Год Дваццаты!

Парыж — Францыя.
20 верасьня 1955 г.

## ЛІСТАПАД

Агарнуў зямельку восеньскім надвор'ем
Ў золаце пажоўклы месяц лістапад.
Горасна шапоча колішнім прывольлем
Зноў асірацелы паўразьдзеты сад.

Родная зямелька, зноў Ты закавана!
Рэжуць Твае грудзі раўчукі ад сьлёз.
Гоняць Тваіх дзетак ў сьвітках саматканых
Ўдалеч ад радзімых імшароў і лоз.

Зморшчылася маці, плача па сыночку,
Плача жонка, дзеткі, таты шкода ім.
"Чорны Воран" цёмнай восеньскаю ночкай
Роднага іх тату вырваў із сям'і.

Цяжка пераносіць зьдзекі ад чужынцаў,
Слухаць бязупынны ад кайданаў звон.
Вёскі саламяны, местаў камяніцы —
Ўся краса Краіны трапіла ў палон.

Пушча Белавежа злосьціцца ад болю;
Помстаю крывавай вышчарыўся гай;
Грознаю лавінай рвецца із няволі
Ў вогнішчы змагарным Беларускі Край.

Cleveland — З.Ш.А.
Лістапад 1958 г.





## ГУДЗЕ НАД СЛУЧЧУ

Гудзе над Случчу навальніца,
Дрыжыць, калышацца зямля,
Ў вагні пажараў Край дыміцца,
Край мірнай працы, Край сялян.

Ўтары крумкач драпежыць чорны,
Цікуе штось скрозь едкі дым,
Але на варце непакорны
Стаў бацька з сынам маладым.

Насупілася пушча строга,
Шапочацца гальлё галін,
Шуміць узрушанай трывогай,
Заве паўстаць на збройны чын.

І паўстаюць з сутоняў цьмяных
Сыны лясоў, багны, балот;
За Край свой родны, патаптаны,
Няма нідзе ім перашкод.

Ды барацьба была няроўна.
Загінуў дзед, і бацька, й сын.
Зноў Край у цемрадзі астрожнай...
Ды зорыць Слуцкі слаўны чын.

Міналі дні. Краіна ў ранах,
Народ урынуты ў спалох,
Але чын Случчыны ахвярнай
Праменіць шлях да перамог.

Cleveland — З.Ш.А.
1958

## ТО БЫЎ ДВАЦЦАТЫ

Нахмурыў бровы сіні ранак,
Туманіў дымам далягляд.
Дрыжэў, крывавіўся у ранах
Ад выбухаў цяжкіх гармат
Ў дваццатым годзе лістапад.

І ўзьвіўся Бел-Чырвона-Белы,
Палошча ў сіню далячынь,
Заве на бой адважных, сьмелых.
Супроць варожае начы
Заве на слаўны, горды чын.

І йшлі сыны палёў жытнёвых,
Кашуляў зрэбных і былін,
Бадзёра, поступам суровым
Ішлі із пушчаў, із нізін —
За Край паўсталі, як адзін.

За Край зрабованы паўсталі,
Адважна рушылі ў паход,
Крывёй загоны палівалі,
Каб Край ня ўмёр, каб жыў народ.
То быў Дваццаты слаўны год.

Cleveland — З.Ш.А.
15 лістападу 1961 г.

═ ** * ** ═





## МЕСЯЦ ЛІСТАПАД

Ходзіць шляхам зорным,
Ходзіць ля прысад
Даўні, непакорны
Месяц Лістапад.

Штось шапоча ў вецьці
І ляціць, ляціць,
Залатым амецьцем
Сыпле, шалясьціць.

Смуткам плешчуць хвалі
Ў Лані берагі,
Дзе калісь лунalі
Слуцкія сьцягі.

Кожную палянку,
Кожны куст, ручай
Трапнай адразанкай
Бараніў Случчак.

Ў барацьбе заўзятай
Ён ня чуў пакут,
Бараніў зацята
Свой сялянскі кут.

І плюскочуць хвалі,
Шамаціць трысьцё:
Там ахвяравалі
Случчакі жыцьцё.

Гаманілі й ветры
З гольлем верхалін,
Зазіралі ў нетры,
На мурог - кілім.

Ды не падлічылі
Тых палян лясных,
Што крывёй скрапілі
Случчыны сыны.

Cleveland — З.Ш.А.
Лістапад 1962 г.

## БЫЛІ ГЭРОІ

— Скажы мне, тата, ці то праўда,
Што наш народ калісь з пагардай
Адкінуў рускае ярмо?

Ўхапіўся ён за зброю дружна,
І залунаў кліч сьмелых, мужных:
"Лепш сьмерць, чым Волю аддамо."

— Было, сынок.., Было ў нас золка,
Ды раптам загуляў вясёлкай
Наш Дваццаць Пяты Сакавік.

І радасьць расплылася ў хатах:
Вяселяцца хлапцы, дзяўчаты,
А за стырно стаў наш мужык.

Але чырвонай бліскавіцай
З Масквы ўзьнялася навальніца
І засланіла небасхіл.

Забіў народ наш на трывогу
І засланіў грудзьмі дарогу;
На сонцы бліснулі штыхі,

Гулі гарматы, кулі пелі,
Ад дыму людзі пашарэлі,
Страчыў няўтомны кулямёт;

Крывёю кожны крок быў зьліты,
Чарнела поле ад забітых —
Так бараніўся наш народ.

Але ня нам спрыяла доля,
Не дзеля нас бліснула Воля.
Ахвярныя ў зямлю ляглі...

Дык вось, сынок... Былі гэроі,
Стаялі да канца са зброяй...
Спачылі у сырой зямлі...

Cleveland — З.Ш.А.
Лістапад 1962 г.



## ПАСЛУХАЙ, ШТО КАЖА КУРГАН

Аднойчы улетку па Слуцкай зямлі
Ледзь бачнаю сьцежкай паволі мы йшлі;
Вакол нас сінеўся лес цёмны густы,
Аб нечым таемна шапталі кусты,
Курган уздымаўся, як сьведка забавы,
Як сьведка былой Беларускае славы.

На ім дуб-асілак увесь мохам парос;
Ён шмат наглядзеўся на мора ад сьлёз;
Зялёны мох вылез з глыбокіх маршчын,
Шырокі цень кідалі шапкі галін,
Дуб нас заклікаў, даючы адпачынак,
Пад свой густалісты зялёны абдымак.

Бадзёра падходзім пад цень, нібы ў дом;
Шапочуць аб нечым лісточкі кругом;
Мы селі (Нас хутка агортвае сон)
І чуем, — здалёк набліжаецца звон.
Курган застагнаў, дуб над ім нахіліўся,
А зь лісьцяў зялёных сьпеў дзіўны паліўся.

Сьпеў дзіўны асілкаў Славян-Крывічоў,
Зь ім раптам злучыўся напеў дрыгвічоў,
Азваўся ён рэхам сярод Севяран,
Радзімічаў, Вяцічаў, сьмелых Драўлян,
Высока ў блакітную далеч узьвіўся,
Магутнаю славай над Краем расплыўся.

Сьпявалі, як князь Рагвалод ваяваў,
З чужацкай апекі народ вызваляў,
Як княжна Рагнеда любіла народ,
Як князь Чарадзей сабіраўся ў паход,
Як воўкам вяртаўся сярод цёмнаў ночы —
Гарэлі агністыя князевы вочы.

Як княжна Прадслава на перапіс кніг
Найлепшых гадоў не шкадуе сваіх,
Як Клімант Смаляціч, Смаленскі Аўрам,
Кірыла із Турава роднага нам,
Інкогніта "Слова аб Полку Ігора"
Культуру народу ўздымалі угору.

Сядзім, не варушымся; як скрозь туман,
Шмат войска выходзіць зь лясістых палян;
Вакол вецер стогне, галосіць, сквіліць —
То Міндаўг выходзіць свой Край бараніць,
(Адзін із славутых князёў Наваградку
Ўстаўляў Беларускага Права парадкі).

Мы слых навастрылі; звон гучна званіў;
І чуем: Вялікім палітыкам быў
Князь дзейны й разумны ваяк Гедымін;
Пасьля Гэдыміна Альгэрд, яго сын,
Краіну сваю бараніўшы з Усходу,
Вялікую славу здабыў для народу.

На Захад і Поўнач харобры Кейстут
Дружыну вадзіў, бараніў родны кут.
Гучней у званы б'е Сафійскі званар;
Гудзе звон, як Вітаўт — Вялікі Ўладар
Народ бараніў ад Усходняй пакуты
Й далёка за межы быў знаны, славуты.

А князь Жыгімонт, што ліць звон загадаў,
Аб славе Радзімы званіў і сьпяваў;
Сапега Леў — спрытны ў палітыцы сват,
Ваяка ў вайне, ў мірны час — дыплямат;
Набаба Антон — атаман беларусаў —
Паўстаньне узьняў супроць панскіх прымусаў;

Францішак Скарына — беларускі друкар —
Ён вынес наш друк на шырокі абшар;
Зьвініць, што мы маем "Літоўскі Статут",
Ў ім "Права"на землю, на ўласны свой кут,
А Земскія Ўрады ўсе абавязкова
Павінны ўжываць беларускую мову;



Зьвініць, што Цяпінскі пісаў і жадаў,
Каб родны народ сваю мову ўжываў;
Князі Радзівілы, Сапегі й хто мог
Спрыялі друкарству ўва ўласных дварох;
Мамонічы-ж родам із-пад Магілёва
Друкарствам праславілі роднае слова;

Зізаніна "Лексіс" выходзіць у сьвет,
Граматыку выдаў Смятрыцкі Малет,
Сымона-ж Будного сам цар запрасіў,
Каб ён люд Маскоўскі культуры навучыў,
І радасным зьзяньнем ўзыходзіла сонца
У наш "Залаты Век" на роднай старонцы.

Гучней і гучней разьліваецца звон,
Пяе аб жыцьці беларускіх старон;
І песьня нясецца далёка ў прастор,
Ў блакітнае неба, да сонца, да зор,
Зьвініць пералівамі музыка жвава,
Разносіцца ў сьвет Беларуская слава;

Пяюць Ян Баршчэўскі, Рыпінскі, Чачот,
Што ў Краю жыве Беларускі народ;
Дунін-Марцынкевіч — пісьменьнік буйны
У творах адбіў быт свае стараны,
Францішак Багушэвіч — паэт Адраджэньня
І "Дудкай" і "Смыкам" натхняў пакаленьне;

Кастусь Каліноўскі, што сьмела паўстаў,
Жыцьцё за народную волю аддаў;
Зьвініць: Няслухоўскі "Вязанку" зьвязаў,
Ядвігін Ша зь Цёткай у "Ніве" сьпяваў,
Карусь Каганец напісаў "Шляхцюк Модны",
Паўловіч Альбэрт — гумарысты народны

— Усе праслаўлялі любімы свой Край,
І славай зьвінелі палеткі і гай;
Гарун — беларускі паэта-змагар
У скарбніцу нашу ўлажыў "Матчын Дар",
Канстанцыя Буйла "Курганнаю Кветкай"
Праславіла гай, сенажаці, палеткі;

Максім Багдановіч — мастацтва паэт —
Пэнтамэтр — пяць дактыляў, стройны санэт,
Тэрцыны, октавы, рондо, трыялет
Каваў, гартаваў і званіў у сусьвет;
А зь Нівы зьвініць, разьліваецца голас —
Купала, Гарэцкі, Бядуля, Ўласт, Колас,

Гурло, Галубок, Аляхновіч, Чарот,
Зязюля й шмат іншых ідуць у паход;
І Лёсік Язэп — Адраджэньня салдат,
Сьвядомы змагар, беларус дэмакрат,
Грамыка, Сваяк, Цішка Гартны ды Леўчык
Народ вызвалялі ад цемры адвечнай.

Грыміць навальніца, палае вайна,
Крывавіцца восень, зіма і вясна,
Ў крыві захлынаецца трэйці ўжо год,
Але Пярун ляснуў, і ўзьняўся народ,
Ідзе закладаць свой дзяржаўны падмурак,
Свой Край адраджаць скрозь завеі і буры.

Прышоў Васемнаццаты радасны год,
Сваю **незалежнасьць** сьвяткуе народ;
Іскрыць **Дваццаць Пяты** ў Краю **Сакавік,**
Стырно ухапіў наш араты мужык;
Успомніў народ сваіх прашчураў славу,
Будуе сваю Незалежну Дзяржаву.

Ідэя яе знайшла плённы свой грунт:
Варонка, Аўсянік, Крэчэўскі, Скірмунт,
Карач, Аляксюк, Бадунова, Козіч,
Ваяк гэнэрал Кандратовіч — крывіч,
Ластоўскі, Мамонька, Душэўскі, Цьвікевіч,
Уласаў, Лянкоўскі ды Смоліч, Луцкевіч,

Ладноў, Серада, Івадоўскі і Грыб,
Бялевіч, Захарка, Заяц, Езавіт,
Макрэяў, Вяршынін ды шмат змагароў
Даў Полацак, Віцебск, Смаленск, Магілёў,
Менск, Горадня, Вільня, Палесься нізіны,
Каб Край адрадзіць з-пад адвечных руінаў.



І ў Случчыне створаны свой Камітэт;
Сьмяецца і плача ад радасьці дзед.
Ды чорнаю хмарай прышоў бальшавік
І зьнішчыў нам волю, што даў Сакавік,
Жаўрыд з Камітэту заарыштаваны,
Ў чужую Краіну на зьдзекі сасланы.

Але Незалежнасьць зрабіла свой крок,
І ў Краю разьвеяўся жудасны змрок,
Нядоля, як дым, адыйшла ў забыцьцё,
Ізноў Беларусы кіруюць жыцьцём;
Зьезд Случчыны вызначыў Слуцкую Раду,
Каб Край бараніць ад чужынцаў нападу.

Пануе у Слуцку ізноў свой Урад;
Зьвіняць за ваколіцай песьні дзяўчат;
І ў кожным сяле з-пад саломяных стрэх
Званочкамі льлецца вясёлы іх сьмех;
Як толькі-ж Масква небясьпекай навісла,
Ўся Случчына дружна са зброяю вышла;

Ідуць батальёны, праходзяць палкі,
Грудзьмі за Раазіму стаяць Случчакі,
Адважна і сьмела імчацца у бой,
За волю, за чын ахвяруюць сабой,
Вішчаць, разрываюць паветра шрапнэлі,
Шапочуць стрывожана сосны і елі.

Ізноў завіруха мяцеліць, сьняжыць,
Пакутнай няволяй над Краем імжыць,
Ды толькі Пагоні ня зьнішчаны Сьцяг,
Наш Бел-Чырвон-Белы ў надзейных руках —
Крэчэўскі з Захаркаю моцна трымаюць,
Ў палон не здаюцца, галоў ня схіляюць.

Расьце наш народ, і расьце яго дар:
Дубоўка, Зарэцкі, Дарожны, Дудар,
Хадыка, Бандарына, Вольны, Багун,
Грышкевіч, Вішнеўская, Танк, Салагуб,
Язэп Падабед, Маракоў, Шашалевіч,
Кляшторны, Лужанін, Бартуль, Ільляшэвіч,

Мікуліч, Цьвікевій, Знаёмы, Скрыган,
Калюга, Радзевіч, Грыневіч, Пфляўбаум,
Арсеньнева, Геніюш, Чорны, Машара,
Жылка, Салавей, Бабарэка і Хмара,
Баркоўскі, Талерка, Сакол, Нікановіч,
Казлоўскі, Пятрусь, Іванова, Міровіч,

Пятро Глебка, Моркаўка, Трус, Галавач,
Язэп Пушча, Івэрс, Ванаг, Крапіва,
Крушына, Случчанін, Вольны, Хведаровіч,
Зосім, Лебяда, Звонак, Аляксандровіч,
Клішэвіч, Кавыль, Золак, Віцьбіч, Сяднёў
— Сыны сенажацяў, вазёр і гаёў.

А годы мінаюць, мінаюць угрунь,
Ў Краю каласуе паўстаньчая рунь,
Вайною зь няволі ірвецца народ,
Ідзе на Вялікі Народны свой Сход,
Падтрымвае дружна загад Прэзыдэнта,
Каб лютага ворага зьнішчыць дашчэнту.

Над поплавам белы расплыўся туман,
Стагнаў старажытны асілак курган,
Наўкол залаціліся жытні палі,
Валошкі у жыце сінелі, цьвілі,
Зязюля ў гаю, "колькі жыць," кукавала,
Глыбока у сэрцы туга замірала,

Трымцелі над намі галінак лісты,
Іх шэпт таямніча ў паветры застыў,
Ў вушах звон цудоўны аб славе гудзеў,
Зьвінеў пераможны ваяцкі напеў;
Ён зваў да змаганьня адважных і сьмелых
За Волю, за Край пад сьцяг Бел-ЧырвонгБелы.

Скрыбава
Красавік — ліпень 1944 год.



## ЗЬМЕСТ

## НАСТРОІ



## НА ПАЛЕТКАХ СЛУЦКІХ